ЧУЛІ?

## Гродзенскі суд апраўдаў трох журналістаў-фрылансераў

*Журналістаў Алеся Дзянісава, Аляксея Кайрыса і Кацярыну Ляўдацкую судзілі за сюжэт на тэлеканале «Белсат», які стварылі іншыя аўтары.*

Сюжэт быў прысвечаны 80-годдзю вядомага рок-музыканта Чэслава Немэна. І здымаўся на яго радзіме ў вёсцы Васілішкі Шчучынскага раёна. Міліцыя склала на трох гродзенскіх журналістаў пратаколы за тое, што яны нібыта незаконна вырабілі і распаўсюдзілі інфармацыю на польскім тэлеканале «Белсат».

Аднак падчас разгляду справы высветлілася, што аўтарамі перадачы былі іншыя журналісты. З-за недахопу доказаў справу спынілі.



Тым не менш у 2019 годзе над журналістамі «Белсата» ў Беларусі адбылося ўжо 14 судоў, журналісты пакараны штрафамі на 13.770 рублёў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ**
*Гродна.*

ЮБІЛЕЙНАЕ

# Пяць падзякаў Пазьняку

Летась мне патэлефанаваў адзін з партыйных паплечнікаў Зянона Пазьняка і паведаміў: у мяне для вас бандэроль з Нью-Ёрка. Мы сустрэліся, і я з рук у рукі, як вялікую каштоўнасць, што не была даверана «Белпошце», атрымаў важкі пакет. Разгарнуў – сапраўды каштоўнасць. Кнігі Зянона Станіслававіча – ажно тры, усе з зычлівымі аўтографамі.

На пакеце не быў пазначаны адрас адпраўніка, і я пацікавіўся, якім чынам магу падзякаваць шаноўнаму аўтару за неспадзяваны падарунак. Можа, кажу паплечніку, падзеліцеся адрасам яго электроннай пошты?

Паплечнік рашуча адказаў, што ўсе адрасы Зянона Пазьняка – партыйная таямніца і ён не выдасць яе нават пад катаваннямі. І параіў падзячны тэкст спачатку пераслаць яму, а ўжо затым ён будзе адпраўлены на засакрэчаны адрас.

Прызнацца, мяне гэта трохі збянтэжыла. Выглядала, што разам з падзякай я магу занесці ў камп'ютар Пазьняка небяспечны вірус, які знішчыць усё ім напрацаванае. Западозранаму ў гэтkіх зламысных намерах, мне неяк не захацелася дзякаваць праз пасрэдніка. Хоць, магчыма, нейкая рацыя ў яго ных словах прысутнічала: камп'ютары нашы здольныя часам на такія выбрыкі, што за галаву хапаешся.

Дасланыя кнігі я з вялікай асалодай прачытаў, на адну з іх нават невялічкі водгук апублікаваў. Але – аўтару так і не падзякаваў. А быць няўдзячным я не прывык. Таму, хоць і са спазненнем, раблю гэта на старонках «Народнай Волі».




Першая мая падзяка, само сабой, за дыхтоўныя, якасна выдадзеныя кнігі-фаліянты – «Глёрыя Патрыя», «Тэрра Дэй» і «Дарога». У іх мудрасці – як у Бібліі, харастве – як у ласкáвых воку айчынных краявідах, беларускага аптымізму – як у творах найвялікшага нашага жыццялюба Уладзіміра Караткевіча.

Другая мая падзяка (ну, калі ўжо надарылася нагода) – за найлепшы праваднік па Мінску пад назвай «Рэха даўняга часу», па якім я і знаёміўся са сталіцай у далёкім ужо 1985-м.

Трэцяя мая падзяка – за адкрыццё Курапатаў, ад праўды пра якія здрыгануўся цэлы свет.

Чацвёртая мая падзяка – за дзяржаву Беларусь, якая з'явілася на еўрапейскай карце і перад усім чалавецтвам пад бел-чырвона-белым сцягам і гербам Пагоня (падобным чынам я прынагодна выказваю ўдзячнасць і ўсім знаёмым дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання).

І пятая мая падзяка – за эталонную мужнасць і беспахібны патрыятызм, праяўленыя і ў зале ВС, і на вірлівых перабудовачных мітынгах, і на адчайна-смелых напаўпадпольных «паддашках», дзе выжывала ў савецкія часы незалежная беларушчына.

Янка Брыль неяк напісаў – як з трыбуны сказаў: «Не хістаюцца толькі слупы, асабліва глыбока ўкапаныя». Невядома, праўда, каго ён меў на ўвазе. Але калі захістаецца шула – разваліцца хата. Калі захістаецца пад напорам крыг пáля – абрынецца мост. Калі захістаецца той жа тэлеграфны слуп – парвуцца правады. Так што непахіснасць у свеце проста жыццёва неабходная.

Разумею, што мае падзякі гучаць, як тэксты ўзнагародных лістоў. Але, на жаль, я не магу дастаць з кішэні і прышпіліць на грудзі юбіляру ордэн Кастуся Каліноўскага, заснаваны беларускай дзяржавай у 1995-м і да скасавання ў 2004-м (за дзевяць гадоў!) так нікому і не ўручаны. Думаю, што ў свой час дзяржаўнага дзеяча і палітыка Пазьняка той ордэн знойдзе. Я ж тут проста выкажу свае чытацкія ўражанні ад трох кніг паэта і мастака Зянона.

Яны складаюцца з пераважна кароткіх вершаў і жывапісных фотаздымкаў, якія якасна ўзаемазамяняльныя – вершы сваёй лаканічнасцю (тры-пяць радкоў) нагадваюць імгненны, выхаплены з плыні часу здымак, а здымкі сюжэтна разгортваюцца ў прасторы і часе, як фотабалады.

Сузіраючы здымкі Зянона, мы падарожнічаем па Беларусі, зрабіўшыся незвычайна відушчымі. Вось мы трапляем у летні Браслаў, узыходзім на замчышча, заціснутае між азёраў, і бачым, як далёка ўнізе адплывае ўдалеч і драбнее на вачах човен, нібы сціраецца аб шурпатую тарку хваляў. І бачым, як на далёкім супрацьлеглым беразе пад сонечным промнем раптам выбліснуў шпіль касцёла Сэрца Ісуса, быццам хтосьці нябачны піша на нябёсах залатым пяром, абмакнуўшы яго ў чарнільна-чорныя хмары…

Паэт Зянон ашчадны да слоў, як правізар у аптэцы да лекаў, узважваючы іх на мікравагах. Вось прыклад яго ўлюбёных хоку:

*Клёп-клёп –*
*Пад клёнамі за Клявай*
*Далёка касец*
*касу клепле.*

Зянон – філосаф у паэзіі, хоць і не заснаваў уласнай школы стоікаў, як ягоны цёзка, што жыў больш за тысячу гадоў таму ў Афінах. Грэчаскі мысляр паходзіў з Кітыёна на востраве Крыт, беларускі – з Суботнікаў, што ў Іўеўскім раёне. І харaством краявідаў вакол гэтай заходнебеларускай вёскі да гэтага часу наталяецца душа творцы.

Вось страла брукаванкі з наканечнікам касцёла – дарога ў Суботнікі з боку Юрацішак. Вось звычайная вясковая хата, што выглядае адным акном з высокай пшаніцы, – родны дом у Суботніках. Вось вёска ўмасцілася нанач у тумане, толькі касцельная вежа, як дазорца, чуйна прыслухоўваецца да наваколля – вечар над Суботнікамі.

Спакойнае, векавечнае жыццё, якому, здаецца, не пагражае небяспека. І раптам між прытульных воку краявідаў – малюнак, які прымушае схамянуцца:

*Чорная труна выплыла*
*з-за павароту*
*На плячах незнаёмых*
*І, нібы лодка, гайдаецца*
*У хвалях галоў.*
*Так нечакана,*
*Бо я ішоў на спатканне*
*з каханай*
*І думаў пра пацалункі.*

Так Зянону ўбачылася вядомае memento mori (памятай пра смерць). Мудрая лаціна (вокладкі кніг пра гэта сведчаць найперш) афарыстычна пераклікаецца з засмочанай беларускай душой.

А яшчэ Зянон – майстар паэтычных прытчаў. Узорам такога жанру можа паслужыць прытча «Пуга» (як і належыць пузе – даўгаватая) – у ёй, як у люстэрку, адбілася ўсё наша беларускае быццё.

Прозвішча Пазьняк толькі на першы погляд этымалагічна зближана са словамі ***позна, позні,*** той, які ***спазніўся.*** Больш праўдападобна (прынамсі для мяне) выводзіцца яно ад слоў *пазнаць,* той, які *пазнае.* Пазнае красу і веліч Бацькаўшчыны праз трапнае слова і аб'ектыў фотаапарата. Пакутліва разважае над лёсам Айчыны над роднай Гаўяй, над варшаўскай Віслай, над нью-ёркскім Гудзонам.

Не ўспрымаю ўсур'ёз папрокаў у яго бок: кінуў Бацькаўшчыну ў самы адказны момант, адарваўся ад беларускіх рэалій, жыве на ласкавым хлебе. Па-першае, можна і ў Беларусі жыць, адарваўшыся, і колькі гэткіх «адарванцаў» па нашай зямлі ходзіць! Па-другое, ласкавы хлеб чужыны заўсёды горкі – папракаць ім можна толькі ад бессардэчнасці. Па-трэцяе, зняўшы з паліцы Зянонава трохкніжжа, чытаючы і спасцігаючы яго, я адчуваю: душой і думкай ён – тут.

І гэта для мяне галоўнае.

**Міхась СКОБЛА.**

Зянон ПАЗЬНЯК

## Пуга

Ідучы па дарозе,
Я спаткаў чалавека.
Ён быў вельмі яшчэ малады.
А можа, стары.
Бо крычаў, як юнак,
І казаў, як мудрэц:
«О, воля! Свабода!
О, светлы дзень народны!
О, Беларусь!
О, Беларусь, мая шыпшына!
О, цвет наш бел-чырвона-белы!»
І так хораша мне было яго слухаць.
«Пойдзем, – кажу, – змагацца
За волю, за долю.
Пойдзем – за Беларусь!»
«Ужо ідзем, – сказаў чалавек. –
Я іду табе ўслед.
Рушайма! Пайшлі!
Без аглядкі, да зор!»
І вузкай кручастай дарогай
Мы ішлі пад гару.
Абсыпалі каменне ногі мае.
Зацінаў мне дыханне пыл –
Але іду.
Вось і вечар ужо.
Цямнее каменнай дарогі брыло.
Азірнуўся назад –
За плячыма нікога ў мяне не было.
Тады збоку убачыў яшчэ аднаго.
Ён хораша граў і спяваў пра свабоду.
– Каго любіш? – пытаю яго.
– Люблю Беларусь.
– Дык пайшлі ваяваць.
– Я б пайшоў, але ж могуць забіць.
Толькі я павярнуўся ісці,
Ажно – трэці відаць чалавек.
Ён сядзеў на скале
І ўзіраўся пад ногі.
– Ці хочаш свабоды? – пытаю яго.
– Хачу, – кіўнуў чалавек у адказ.
– То пойдзем, – кажу.
– Як пайду, тады што мне за гэта дасі?
«І што б мне было яму даць?» –
Думаў я, адыходзячы прэч.
Аж бачу – шырока рукі раскінуў
І нагамі ў даліну
Віцька ляжыць праз дарогу.
– Здароў, Віцька! – кажу. – Беларусь любіш?
– Люблю.
– Свабоды хочаш?
– Ага.
– А ці хочаш, каб даў?
– Хачу, – ажывіўся Віцька.
– Чакай, дам.
Сказаўшы гэта, я звіў добрую пугу
І, сперазаўшы Віцьку,
Пагнаў яго перад сабой да свабоды.
От гэтак, думаю, і дойдзем,
Дойдзем мы да Беларусі.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

# К почкам – с должным вниманием!

*Отчего возникает почечная недостаточность? Как долго можно прожить на гемодиализе? Как добиться ремиссии по пиелонефриту? Продолжаем публиковать ответы на вопросы читателей, которые поступили на «Прямую линию» с врачом-нефрологом высшей категории медицинского центра «ЛОДЭ» **Мариной Петровной ГУБЕРСКОЙ.***

***(Окончание. Начало в №32.)***

### Консультация уролога два раза в год!

**– Марина Петровна, звонит вам постоянный читатель «Народной Воли». Мне 91 год, и вроде как все в норме, но по ночам потею. Это может быть из-за переполнения мочевого пузыря?**

– Возможно, это связано не с частым ночным мочеиспусканием, а с гормональными изменениями. Чтобы понять, в чем причина повышенной потливости, вам необходимо проверить уровень гормонов щитовидной железы и уровень сахара.

**– Сахар нормальный.**

– А гормоны щитовидной железы?

**– Этого не знаю.**

– Надо проверить. Кроме того, пройти более полное обследование (помимо анализов выполнить УЗИ внутренних органов).

**– Меня что беспокоит: утром опорожнюсь, а через 5 минут в мочевом пузыре опять есть моча. Это что, почки так усиленно работают?**

– Это не почки так работают, это говорит о том, что у вас увеличена предстательная железа и она не дает полностью опорожнять мочевой пузырь. Вам необходимо обратиться за консультацией к урологу. Мужчины старше 60 лет должны посещать уролога два раза в год. А при наличии урологических проблем (а именно о них вы мне сейчас рассказываете) даже чаще.

**– Ядвига Францевна из Витебской области беспокоит. Вопрос касается моего сына. Ему 43 года, он водитель, в прошлом году попал в больницу: УЗИ показало, что в почках есть камни. Прошел лечение, выписался. Вроде ничего не беспокоит, но не так давно у него опять вышли камни. Значит, они образовываются? Что ему посоветуете делать?**

– Мочекаменная болезнь возникает при нарушении метаболизма (обмена веществ) в организме, и камни могут образовываться снова. Чтобы правильно лечиться, вашему сыну надо наблюдаться у врача-уролога. Он даст рекомендации по диете.

Ваш сын водитель, значит, длительно находится в положении сидя, что приводит к застою в малом тазу. А если еще и опорожнение мочевого пузыря не всегда происходит вовремя – это тоже усугубляет течение мочекаменной болезни. Микролиты оседают в почках, постепенно увеличиваясь в размерах. Поэтому еще раз повторю: ему необходимо наблюдение у уролога, который будет определять периодичность сдачи анализов и проводить лечение.

**– Из Гомеля вопрос от Светланы Ивановны. У меня много лет пиелонефрит и диабет 2-го типа. Раньше удавалось улучшить анализ мочи, а последние три года уровень лейкоцитов в моче значительно выше нормы, и уменьшить его никак не удается. Можете ли вы что-нибудь посоветовать?**

– Для того чтобы добиться ремиссии по пиелонефриту, необходимо компенсировать течение сахарного диабета. При высоких показателях сахара в крови и увеличении уровня глюкозы в моче пиелонефрит может иметь рецидивирующее течение или протекать непрерывно. Поэтому помимо антибактериальной терапии вам необходимо нормализовать уровень сахара. Колебания сахара в течение дня не должны превышать 10 ммоль/л, и гликированный гемоглобин не должен быть больше 6,2%. Надо проводить противорецидивную терапию, возможно назначение уросептиков либо антибактериальных препаратов небольшими курсами по 7–10 дней каждого месяца и фитотерапии в течение оставшихся 20 дней каждого месяца.

**– А посев мочи нужно делать?**

– Для эффективности антибактериальной терапии нужно выполнить посев мочи на флору, определить наличие или отсутствие бактерий в моче и по антибиотикограмме подобрать правильные и эффективные препараты.



**– Марина Петровна, добрый день! У меня такая ситуация: в почках камни, один, 7-миллиметровый, лежит в верхней чашечке правой почки, второй, 9-миллиметровый, – в левой почке в нижней чашечке. Иногда, особенно если съем что-то острое, испытываю ноющую боль в правом боку. Что вы посоветуете: заниматься лечением и убирать эти камни или подождать?**

– У вас камни достаточно крупных размеров, чтобы самостоятельно выйти. Как правило, камни, которые в диаметре больше 4 миллиметров, подлежат дроблению. Тактику ведения вашего случая и лечения должен определять врач-уролог.

Хочу отметить, что камни, которые находятся в нижней чашечке, не рекомендуется подвергать дроблению, потому что есть риск повреждения почки осколками и развития воспаления. Поэтому камень в вашей левой почке трогать нежелательно. Но еще раз повторю: все эти вопросы вы должны обсудить с врачом-урологом.

### Отчего возникает почечная недостаточность?

**– Добрый день! У меня только один вопрос к доктору: отчего возникает почечная недостаточность?**

– Почечная недостаточность – это патологическое состояние, при котором нарушается функция почек. Причин может быть много: заболевания почек (гломерулонефриты, поликистоз почек, пиелонефриты, мочекаменная болезнь), врожденная почечная патология (сужение почечных артерий, поликистоз, недоразвитие почек), нарушение обмена веществ (подагра, амилоидоз, сахарный диабет), ревматические заболевания (склеродермия, геморрагические васкулиты, системная красная волчанка), сосудистые заболевания (артериальная гипертензия).

**– Спасибо! Понял.**

### Диализ – это навсегда?

**– Марина Петровна, у нас такая ситуация: мужу 38 лет, сейчас лежит в 4-й больнице Минска на диализе. Планово. У него сахарный диабет. Скажите, пожалуйста, диализ – это уже навсегда или от этой процедуры можно уйти и вернуться к нормальной жизни?**

– Диализ – это один из методов заместительной почечной терапии, он помогает продлить жизнь, немного улучшить ее качество. Прекратить такое лечение нельзя, диализ – это промежуточный этап перед выполнением трансплантации почки.

**– Как долго можно жить на диализе, насколько он позволяет сохранять качество жизни?**

– У всех пациентов по-разному, все зависит от наличия у пациента сопутствующих заболеваний, от того, какое заболевание привело к почечной недостаточности и утрате функции почек. В моей практике были пациенты, которые находились на диализе и 20 лет. Но это было раньше, до того, как в Беларуси стала развиваться трансплантация почки. Но иногда на диализе приходится находиться до конца жизни – в тех случаях, когда пациент не настроен на пересадку почки или по каким-то противопоказаниям такая операция ему не может быть выполнена.

Наличие сахарного диабета утяжеляет и укорачивает период выживаемости пациента на диализе. Необходимо очень четко выполнять все врачебные рекомендации, соблюдать диету в первую очередь по калию и жидкости. Водный режим должен быть очень жесткий: оптимальным считается набор веса в междиализный период не более 2–2,5 килограмма, а это нелегко. Пациентам приходится практически полностью отказаться от жидкости, в зависимости от количества остаточной мочи у пациента.

**– Очереди на трансплантацию почки большие?**

– В среднем от 7 месяцев до полутора лет.

Пациент должен оговорить свое желание встать в лист ожидания на пересадку почки в первую очередь с врачом-нефрологом диализного центра. Он должен пройти все обследования, которые предусмотрены протоколом для постановки в лист ожидания, и затем собранные документы передать в ГУ «МНПЦ хирургии, трансплантологии и гематологии». Заключение, пригоден пациент для трансплантации почки или нет, а также рекомендации для дообследования, если оно понадобится, выдает консилиум врачей.

**– А как долго люди живут с пересаженной почкой? Чужой орган может и не прижиться.**

– Трансплантация почки – это шанс улучшить качество жизни. Выживаемость трансплантата может быть и 5, и 10, и 20 лет. Все будет зависеть от того, как организм примет донорский орган, какая у него сопутствующая патология, потому что, например, у пациентов с некоторыми видами гломерулонефрита возможен возврат заболевания в трансплантат. У пациентов с сахарным диабетом возможно развитие диабетической нефропатии в донорском органе с течением времени.

Кроме того, после трансплантации пациенты принимают специальные препараты-иммуносупрессанты, чтобы донорский орган не отторгался. Это тяжелая для организма нагрузка, и сложно предугадать, как тот или иной организм отреагирует на иммуносупрессию.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

СЛЫШАЛИ?

# Первой женщиной, получившей престижную Абелевскую премию по математике, стала американка

*Одна из самых престижных международных математических наград досталась американке Кэрен Уленбек.*



Работы 76-летней Кэрен Уленбек посвящены широкому кругу сложных научных проблем, в том числе дифференциальным уравнениям с частными производными, вариационным исчислениям, калибровочной теории и интеграции геометрии и физики с помощью новых математических подходов.

Кэрен Уленбек, почетный профессор Техасского университета в Остине, является также приглашенным сотрудником Института перспективных исследований (IAS) и приглашенным старшим научным сотрудником Принстонского университета. В 1993 году она выступила соучредителем программы IAS «Женщины и математика», которая поощряет женщин посвятить свою карьеру математической науке.

Кэрен Уленбек – признанный авторитет в своей области: в течение последних десятилетий ей присужден ряд престижных наград, например Национальная медаль за научные достижения, стипендия Фонда Макартуров и множество других. Коллеги из разных стран мира поддержали присуждение Кэрен Уленбек Абелевской премии, которую часто называют «Нобелевской премией по математике».

Профессор Пол Голдбарт, ученый-физик и декан Колледжа естественных наук Техасского университета в Остине, отметил, что «исследования Кэрен Уленбек знаменовали собой революционные достижения на пересечении математики и физики, а ее новаторские идеи находят применение в самых разных областях знаний, от теории струн, которая может помочь объяснить природу реальности, до геометрии пространства-времени».

Абелевская премия учреждена в 2003 году в честь норвежского математика XIX века Нильса Хенрика Абеля Норвежской академией наук и литературы по образцу Нобелевской премии. Денежная награда составляет 6 миллионов норвежских крон (около 700 тысяч долларов).

Академия объявила, что премия присуждена Кэрен Уленбек «за новаторские достижения в области геометрических дифференциальных уравнений с частными производными, калибровочной теории и интегрируемых систем, а также за фундаментальное влияние ее научных работ на анализ, геометрию и математическую физику».

Вручение премии Кэрен Уленбек состоится на торжественной церемонии в Осло 21 мая. Ученый получит ее из рук короля Норвегии Харальда V.

ИХ ПРОБЛЕМА

# Рассыплется ли Великобритания?

В мае 2021 года в Шотландии должен состояться референдум, на котором жители этой части Объединенного Королевства должны выбрать – остается ли Шотландия в нынешнем статусе либо обретет независимость. Об этом заявила глава шотландского правительства госпожа Никола Стерджен, выступая 24 апреля перед депутатами парламента.

Напомним, что Шотландия является автономной административно-политической частью Великобритании. С 854-го по 1707 год она была самостоятельным королевством. В 1706 году был подписан договор об унии Шотландии и Англии, и королева Анна в первый день мая 1707 года стала главой Объединенного Королевства. С тех пор время от времени в Шотландии возникало движение за восстановление суверенитета, однако реальным поводом к возможному отделению Шотландии стал лишь референдум 23 июня 2016 года о выходе Великобритании из состава Европейского Союза. Дело в том, что на референдуме о «брексите» за дальнейшее пребывание страны в составе Евросоюза высказались 62% шотландцев. Возникло противоречие, которое и предлагает решить в 2021 году – то есть до истечения срока полномочий нынешнего состава шотландского парламента – Никола Стерджен.

Можно предположить, что, если решение о проведении подобного референдума в Шотландии будет принято, оно будет иметь серьезное значение для всего Объединенного Королевства. Несмотря на всю свою популярность, 93-летняя королева Елизавета II вряд ли сумеет предотвратить его. Парламент же Великобритании до сих пор не сумел принять никакого внятного решения по «брекзиту» в целом, а потому нет шансов, что и в этом вопросе он сможет каким-либо образом повлиять на ситуацию.

**Федор КОНСТАНТИНОВ.**

ФИНАНСЫ

# Китай даст Беларуси сто миллионов евро для развития экономики

Минск и Пекин подписали кредитное соглашение о предоставлении ОАО «АСБ «Беларусбанк» финансовых ресурсов на сумму 100 млн евро для развития национальной экономики, сообщили в Посольстве Беларуси в Китае.

Документ подписан на встрече Чрезвычайного и Полномочного Посла Беларуси в Китае Кирилла Рудого с председателем правления Банка развития Китая Чжао Хуаном.

Во время переговоров стороны обсудили перспективные направления сотрудничества.

«Подписано кредитное соглашение о предоставлении ОАО «АСБ «Беларусбанк» финансовых ресурсов на сумму 100 миллионов евро для развития национальной экономики», – сообщили в посольстве.

ЭВРИКА!

# Крупнейшую мастерскую майя нашли в Гватемале

*Ей более тысячи лет.*

О находке сообщается на сайте журнала Science.

Американские ученые, проводившие раскопки на территории современной Гватемалы, обнаружили древнюю мастерскую, в которой представители цивилизации майя создавали свои статуэтки. Как утверждается, найденная мастерская является крупнейшей из известных на сегодняшний день.

В распоряжении ученых оказалось более четырех сотен фрагментов статуэток и форм для их изготовления, а также других осколков керамики. Предполагается, что мастерская активно функционировала в период от 750-го до 900 год нашей эры – это может означать, что расположенное на данной территории поселение в эти годы переживало период наибольшего расцвета.



Такого рода фигурки были далеко не просто сувениром – майя давали их своим союзникам, чтобы подчеркнуть и официально заявить о своем расположении. Таким образом, статуэтки играли большую политическую и экономическую роль.

В марте археологи из Мексики и США изучили систему пещер под городом майя Чичен-Ица и обнаружили в ней более полутора сотен артефактов этой древней цивилизации. В числе прочего специалисты нашли керамические сосуды, вазы, тарелки и курильницы для ароматических смол. До этого исследователи из Польши заметили в руинах города Накума, построенного цивилизацией майя и находившегося на территории современной Гватемалы, баню, возраст которой оценивается более чем в две с половиной тысячи лет. В прошлом году еще одна группа ученых предположила, что соль играла для майя значительно большую роль, чем считалось до сих пор.

Фото: BRENT WOODFILL.

ОЧЕВИДНОЕ – НЕВЕРОЯТНОЕ

Светлана ЛАДОНЬКО:

# «Когда-то наша планета была заселена внеземным разумом»



Необычный человек Светлана Ладонько. Она не просто художник, она – контактер. Не знаете, что обозначает это слово? В различных источниках так называют людей, которые, по их собственным утверждениям, вступали в речевой, образный, смысловой контакт с представителями иных цивилизаций, получали от них информацию – чаще всего телепатическим путем. Есть точка зрения, причем достаточно растиражированная, что контактерами были Да Винчи, Галилей, Коперник, Кюри, Циолковский, некоторые другие личности, сделавшие великие открытия. Тот же известный ученый и изобретатель Никола Тесла. Кстати, ему принадлежит высказывание: «Мой мозг только приемное устройство. В космическом пространстве существует некое ядро, откуда мы черпаем знания, силы, вдохновение. Я не проник в тайны этого ядра, но знаю, что оно существует».

Хотя современная наука не признает феномен контактерства, рассматривая его как миф, мистику, ненаучную фантастику, мир непознанного продолжает манить многих. А является ли на самом деле контактером героиня моей сегодняшней публикации – судите, уважаемые читатели, по ее рассказу.

...Со Светланой Ладонько я встретилась в «Зимнем саду» Солигорского Дворца культуры, где проходит выставка ее картин под названием «Время дальних миров». На холстах художницы Космос, Вселенная, инопланетяне, планеты с неведомой нам атмосферой, – все вне Земли и внеземное. Полотна Светланы Ладонько как призыв вспомнить, ощутить, что человек неразрывно связан со Вселенной и всем, что в ней есть.

– *Космос меня притягивает*, – говорит Светлана. – *Пишу картины на эту тему с чувством счастья в душе. К тому же мои полотна – это своеобразный отчет перед людьми о том, что показали мне через видения представители неземных цивилизаций, что они мне сказали. Я также думаю, что через изображения на моих картинах в подсознание людей прорывается определенная информация. А представителям внеземных цивилизаций для чего-то важно эту информацию нам передать.*

Я не удерживаюсь, чтобы тут же не поинтересоваться:

**– Как вы, Светлана, стали контактером? Когда осознали, что вас сделали проводником?**

– *Я родилась в Казахстане, в городе, который назывался тогда Никольский (ныне Сагпаев). Это недалеко от космодрома Байконур. Жили мы на улице космонавта Комарова. Папа работал инженером-энергетиком, мама была учителем русского языка. В четыре года я услышала звучание неба. Сказала об этом маме. Как вы думаете, что она могла подумать? Детское воображение, не иначе. Но в семь лет я услышала хрустальный звон с небес. У меня было ощущение, что в небе открываются окна. Помню, что мне захотелось туда, за эти окна – далеко-далеко в бесконечную высоту. Потом годы обычной жизни – как у большинства моих сверстников. После школы поехала учиться в один из вузов Новосибирска на техническую специальность. Но вскоре поняла, что не мое это. Ушла из института. Искусство, культура, космос – вот что стало меня интересовать и притягивать. Появилось сильное желание рисовать. В 20 лет стала посещать художественную школу – вечерние классы для взрослых. Проучилась два года.*

*А потом я приехала в Беларусь, откуда родом мой отец. Закончила Гомельское училище народных художественных промыслов, затем Университет культуры и искусств в Минске по специальности «культурология».*

*Первый явственный для меня контакт с иными мирами был во время учебы в университете в Минске. Однажды, засыпая, ощутила, что вокруг все начало меняться. Казалось, душа отрывается от тела, начинает вращаться, будто в вихре, и на огромной скорости уносится в космическое пространство. В тот раз мне показали ледяную пустыню.*



Светлана сказала, что потом ее сознание было унесено в космическое пространство днем. А затем – снова вечером и снова днем. И так много раз, достаточно часто, если говорить о периодичности. Во время своих «полетов» она видела всегда нечто необычное. Поначалу, по ее словам, она пугалась этих видений, которые были очень отчетливые и яркие и длились иногда секунды, иногда минуты.



– *Но почему-то я не сомневалась, что вижу то, что есть на самом деле далеко-далеко за пределами Земли. Страх быстро прошел. В видениях я путешествовала по разным планетам, знакомилась с внеземными цивилизациями, общалась с их обитателями. Ко мне пришло ощущение, что я нашла свое предназначение.*

На картинах Светланы Ладонько, которые на разных выставках отмечают наградами, эти представители других планет и миров выглядят по-разному. Есть среди них великаны, которые за исключением своего роста полностью схожи с людьми, есть похожие на ангелов с крыльями за спиной, есть многоногие, есть с несколькой парой глаз на длинном вытянутом лице, есть разумные существа с разным цветом кожи – в общем достаточно широкий и непривычный для обычного человека спектр форм жизни разумных существ.

**– Что можете сказать об уровне и направлении развития цивилизаций в этих внеземных мирах, о внутренней сути инопланетян?** – интересуюсь я.

– *Самое широкое многообразие. Я видела миры, где основной энергией, населяющих ее разумных существ, является энергия любви. Очень светлая атмосфера там. Жители этих планет производят впечатление целостных гармоничных созданий, очень доброжелательны. Атмосфера там как драгоценное вино. Одну из подобных планет я для себя назвала миром счастья – настолько там сильны вибрации безмятежности, радости, какой-то полной безопасности, удивительного комфорта жизни.*

**– Понятие «Бог» в тех мирах есть?**

– *Да, есть. Его называют Высшим Разумом, Высшим Началом, Универсумом, Главным Творцом. Названия немного разные, но суть одна ведь. Высшее Начало почитают там и считают источником всего сущего и главной творческой силой, питающей дух и душу. На одной из планет мне было сказано, что Божественная сила и Божественная любовь – это для них объективная реальность. К примеру, как для нас закон всемирного тяготения.*

*На одной из планет жители в массе своей обладают способностями, которые у нас принято называть сверхъестественными, магическими. Только там эти способности значительно более высокого уровня, чем у тех землян, которые знамениты в этом плане. Там сильные маги и ясновидцы все, включая детей. И там жизнь построена на неукоснительно соблюдающихся правилах дружелюбия, миролюбия, экологии мыслей и чувств. Думаю, не стоит объяснять почему.*

*Видела планеты, которые в своем развитии сосредоточились преимущественно на технократическом пути. У них приоритет именно интеллекта. Создалось впечатление, что чувства и эмоции у жителей этих планет в значительной степени утеряны или вовсе их нет. На некоторых планетах я почувствовала, что их жители не свободны от эгоизма и чувства превосходства. Показали планету, вокруг которой установлен искусственный пояс защиты, похоже, энергетический. Объяснили, что этот защитный пояс охраняет от нежелательных воздействий и вторжений.*



*Очень большое разнообразие, как я уже сказала. Мне шла информация от 4046 миров.*

**– Как вы думаете, все ли цивилизации, с которыми у вас были, по вашим утверждениям, контакты, настроены к Земле доброжелательно? Ведь есть фильмы о похищении людей инопланетянами, имеются рассказы вроде бы даже пострадавших от этого. В том числе и на просторах интернета.**

– *Часть внеземных цивилизаций, где, как я говорила, высокая энергия любви, несомненно, доброжелательно относятся к нам. Некоторым, похоже, мы совершенно не интересны. Но, наверное, есть и те, у которых исследовательский интерес к Земле и ее обитателям схож с интересом земных ученых к каким-то формам жизни на нашей планете, которые они стремятся изучить. А при этом разное бывает.*

**– Был ли какой-то контакт с планетами из нашей Солнечной системы?**

– *Нет, все эти внеземные цивилизации находятся намного дальше. Возможно, в нескольких десятках тысяч световых лет.*

**– Вы общаетесь с представителями внеземных цивилизаций мысленно?**

– *Да. Но порой перед глазами появляется табличка с текстом.*

**– Можете привести примеры сообщений?**

– *Сообщили, что мы не понимаем всех ужасов того пути, по которому идет сейчас наша цивилизация. Что землянам надо развивать осознанность. Что необходимо новое понимание того, что происходит на Земле. Сказали, что Землю надо переосмыслить.*

**– Как это переосмыслить?**

– *Я не знаю. Было упомянуто, что человечество на определенном этапе выбрало ветвь эволюции, которая вела к доброму, – так они выразились. Но не удержалось, съехало на иную ветку. И сейчас лучше для нас, если мы снова окажемся на той, прежней. Но подчеркнули, что земляне должны сами сделать в этом плане добровольный выбор, потому что закон свободной воли нарушать нельзя, и вмешательства, чтобы подтолкнуть нас, не будет. Также было сказано, что понадобятся еще сотни лет, чтобы мы полностью приняли в сознание законы космической эволюции. Было сообщение, что на Земле есть шедевры искусства и музыки, на которые отзывается Вселенная и которые несут отражение глубинных планов бытия и космической гармонии. На одной высокоразвитой планете сказали, что жизнь землян напоминает им детскую карусель.*

**– Из вашего рассказа получается, что определенные внеземные цивилизации много знают о жителях Земли, наблюдают за нами. Не приземлятся ли их корабли у нас в ближайшем будущем?**

– *Ответа на этот вопрос у меня нет. Но мне давалась информация, что когда-то наша планета была заселена внеземным разумом.*

**– Как вы думаете, почему *они* пошли на контакт именно с вами и зачем им этот контакт вообще?**

– *Сказали, что моей душе уже тысяча лет (было много воплощений) и я готова для подобного контакта. А зачем? Думаю, хотят, чтобы люди вспомнили, что во Вселенной они не одни, что горизонты могут уходить далеко за пределы Земли.*

Замечу, с 2001-го по 2015 год Светлана Ладонько жила в Санкт-Петербурге. Об успехе ее картин на выставках свидетельствует множество восторженных отзывов. Вот некоторые из них.

*«Уважаемая Светлана! Огромное спасибо за выставку. Трудно сформулировать свое ощущение, потому что такие мощные потоки энергии от каждой картины. И начинаешь вспоминать, будто что-то давно виденное (или узнанное), но забытое. Не те миры, которые Вы показываете, а то ощущение, что ты когда-то знала, что нас, живых, много разных, но давно это забыла. Спасибо за интересные переживания»* (Ирина Наумова).

*«Светлана! Огромная благодарность за ваши умные картины, которые увлекают нас в далекий красивый мир»* (О.Ярцева).

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

*г.Солигорск.*

Народная Воля http://www.nv-online.info
26 КРАСАВІКА 2019 г.

АРТ-ЖИЗНЬ

# «Поцелуй» на Октябрьской оплатил анонимный меценат

*В Минске на улице Октябрьской появился новый арт-объект – при поддержке «Белгазпромбанка», как сообщила пресс-служба этого известного финансового учреждения.*



– Это частная инициатива. Минчанин, который пожелал остаться неизвестным, обратился к нам с предложением сделать подарок столице – установить скульптуру и благоустроить территорию возле нашего культурного центра ОК16, – рассказал куратор корпоративной коллекции банка Александр Зименко. – Мы надеемся, что совместно с разными инициативными людьми нам удастся преобразовать улицу Октябрьскую из индустриальной в открытое культурное пространство. Территория около ОК16 будет пополняться такими арт-объектами как от частных инициаторов, физических лиц, так и от крупных партнеров. И этот проект – только начало.

Подозреваю, что аноним, который оплатил все работы, это не кто иной, как Виктор Дмитриевич Бабарико, известный меценат и председатель правления банка. Но это мои личные догадки. А вот информация, которая не скрывается от публики: автором скульптуры «Поцелуй» стал Константин Селиханов, который в этом году будет представлять Беларусь на Венецианской биеннале. Проект благоустройства делал известнейший архитектор Юрий Градов.

**Виктория ДРОЗД.**

Фото из «Фейсбука» Павла Станкуса.

ЗАКУЛІССЕ

# Віктар ШАРШУКОЎ: «Падарылі гадзіннік і пачаставалі салам»



*Галоўны трэнер мужчынскай зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы распавёў «Народнай Волі», як каманда сустракалася з Аляксандрам Лукашэнкам.*

На гэтым тыдні беларускі кіраўнік сустрэўся са спартсменамі і трэнерамі зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы, якая днямі вярнулася з чэмпіянату Еўропы ў Батумі, дзе заняла другое агульнакаманднае месца.

– Па вяртанні каманды ў Мінск патэлефанавалі з Міністэрства спорту і паведамілі, што будзе сустрэча з прэзідэнтам, – кажа Віктар Яўгенавіч. – Шчыра кажучы, гэта было некалькі нечакана, бо, нягледзячы на добрае выступленне зборнай, чэмпіянат Еўропы – гэта спаборніцтва не самага высокага ўзроўню.

У дзень сустрэчы мы сваёй дэлегацыяй, у якую ўваходзілі медалісты першынства і трэнеры, зранку сабраліся ў міністэрстве, а затым адправіліся ў Палац Незалежнасці.

Спачатку камандзе зладзілі экскурсію, каля гадзіны нас вадзілі па Палацы Незалежнасці. Зрабілі фотаздымкі на памяць, а каля 11.00 накіраваліся ў залу на сустрэчу з кіраўніком Беларусі. Там у прысутнасці прэсы прайшло ўзнагароджанне, а затым дыялог з Аляксандрам Лукашэнкам праходзіў ужо ў закрытым фармаце.

**– Якія ўзнагароды знайшлі сваіх герояў?**

– Трэнер Валерый Сізёнак атрымаў медаль «За працоўныя заслугі», спартсменцы Дар'і Навумавай было прысвоена званне «Заслужаны майстар спорту Беларусі», а мне далі ганаровую грамату. Акрамя таго, усім яшчэ падарылі гадзіннікі з дзяржаўнай сімволікай.

**– Пра што ішла размова «за зачыненымі дзвярыма»?**

– Кожны выказваў сваё меркаванне наконт таго, што патрэбна, каб у зборнай былі высокія дасягненні. Я, напрыклад, шчыра прызнаўся, што на чэмпіянаце свету, які пройдзе ў верасні гэтага года, мы не плануем медалёў. Галоўнае – паказаць вынікі, якія будуць вышэйшыя за тыя, што былі на чэмпіянаце Еўропы.

Акрамя таго, закраналіся розныя арганізацыйныя пытанні, якія тычыліся падрыхтоўкі рэзерву для нацыянальнай каманды.

**– Кажуць, што вас там салам частавалі…**

– Так, кожнаму раздалі па талерцы з салам і чорным хлебам. Можа быць, збоку гэта выглядае крыху недарэчна, але хачу вам сказаць, што сала для цяжкаатлета – не самы горшы прадукт для кампенсацыі энергетычных затрат. Дарэчы, калі я працаваў са зборнай СССР, мы і там гэта практыкавалі. Хаця сам я сала ўжываю, можа быць, толькі раз на тыдзень. Узрост ужо не той, каб кожны дзень яго есці.

**– На сустрэчы не прысутнічаў сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы і алімпійскі чэмпіён Алімпіяды-2008 Андрэй Арамнаў, які адразу пасля еўрапейскага першынства адправіўся адпачываць у Егіпет.**

– Андрэй даўно запланаваў гэтую паездку, і я загадзя паставіў пра гэта ў вядомасць спартыўнае кіраўніцтва. Арамнаў адправіўся на мора з сям'ёй, таму ўсе з разуменнем паставіліся да сітуацыі.

Я спартсмена адпусціў на 10 дзён, хаця мы практычна кожны дзень на сувязі. А ўжо 7 мая працягнем планавую падрыхтоўку да Алімпіяды. Арамнаў цудоўна разумее, што ў яго ёсць магчымасць пазмагацца за адзіную пуцёўку на Алімпійскія гульні. Як вядома, на наступную Алімпіяду зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы дазволена адправіць толькі двух атлетаў – мужчыну і жанчыну.

**Алесь СІВЫ.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Стас Жыркоў пакажа Андрэя Горвата

*29 красавіка ў культурным цэнтры «Корпус» адбудзецца паказ спектакля «Гэтамы» па кнізе Андрэя Горвата «Радзіва Прудок». Новую пастаноўку здзейсніў украінскі рэжысёр, мастацкі кіраўнік Кіеўскага тэатра на левым беразе Дняпра Стас Жыркоў.*



«Радзіва Прудок» Андрэя Горвата – адзін з галоўных беларускіх літаратурных бестселераў апошніх гадоў. Ён распавядае пра самога аўтара, які калісьці працаваў у Мінску, але, расчараваўшыся ў сталічным жыцці, пераехаў у палескую вёску Прудок, каб аднавіць дом свайго дзеда, вярнуцца да каранёў.

Праца над спектаклем «Гэтамы» распачалася ўвосень 2018 года на майстар-класе ў межах Міжнароднай тэатральнай акадэміі ў Мюнхене, арганізаванай Саюзам рускамоўнай моладзі ў Германіі JunOste.V. У спектаклі заняты беларускія акцёры: Андрэй Новік, Дар'я Новік, Зміцер Давідовіч, Мікалай Стонька, Васіль Бойдак, Антон Жукаў, Ілля Ясінскі.

ГОЛ!

# Не хлебам адзіным…

*Пачаўся продаж білетаў на першыя дамашнія матчы футбольнай зборнай Беларусі ў адборачным турніры чэмпіянату Еўропы 2020 года.*

Як паведамляе прэс-служба Беларускай федэрацыі футбола, квіткі на гульню з камандай Германіі, якая адбудзецца 8 чэрвеня на полі «Барысаў-Арэны», каштуюць ад 15 да 70 рублёў у залежнасці ад месца на трыбунах.

Кошт білетаў на матч са зборнай Паўночнай Ірландыі, які адбудзецца 11 чэрвеня ў Барысаве, складзе ад 5 да 30 рублёў.

Нагадаем, што пакуль беларуская зборная ў сваёй групе прайграла два стартавыя матчы – камандзе Галандыі (0:4) і Паўночнай Ірландыі (1:2) і займае ў турнірнай табліцы апошняе месца.

**Віктар ШПАК.**

З НАГОДЫ

# Юныя хакейныя зорачкі шліфуюць брыльянт



Шчыра кажучы, да апошняга часу не асабліва верылася ў светлую будучыню беларускага хакея. Хакейныя рэфарматары змянялі адзін аднаго, але спартыўны вынік быў практычна нулявы. Зборная Беларусі вылецела ў першы дывізіён, чаго не здаралася каля 15 гадоў, хакейнае мінскае «Дынама» таксама каторы сезон запар займае «прызавыя месцы» ўнізе турнірнай табліцы.

*«Да 15 мільёнаў долараў у год выкідваем на «Дынама»,* – абурыўся не так даўно беларускі кіраўнік. – *Што яны паказалі? Ні чорта!.. Не патрэбна… такая каманда! Толькі ганьба для краіны... За гэтыя грошы мы самі будзем утрымліваць увесь хакей унутры Беларусі… У кожнага дзве нагі, дзве рукі і адна галава на плячах. Ну дык гуляйце!»*

І вось калі здавалася, што ўжо няма прасвету, гэтымі днямі на беларускіх аматараў хакея павеяў вецер надзеі. Чэмпіянат свету сярод юніёраў (да 18 гадоў), які праходзіць у Швецыі, стаў для нашых балельшчыкаў самым сапраўдным бальзамам на сэрца.

Хіба нехта ставіў на тое, што беларусы перамогуць чэшскіх равеснікаў? А матч з мінулагоднімі чэмпіёнамі свету – фінамі – наогул можна было па прыгажосці і драматызме ставіць у адзін шэраг з гульнямі нацыянальнай каманды. Перамога над зборнай Фінляндыі дарагога каштуе. І тут каштоўныя нават не выніковыя лічбы, а тая гульня,



якую паказала моладзь. Цудоўнае катанне, узаемаразуменне, хуткасць, самаахвярнасць. Усё гэта мы бачылі ў гульні нашых юных хакеістаў. Спартыўнае жыццё ў іх яшчэ наперадзе, але пачынаюць добра.

Галоўнай зоркай беларускай каманды называюць Уладзіслава Калячонка, якому прагназуюць месца ўжо ў першых раўндах драфту НХЛ. А як цудоўна ратаваў зборную варатар Аляксей Коласаў! Упэўнены, што праз нейкі час у поўны голас заявіць пра сябе і Яўген Аксянцюк.

Не выключана, што сярод гэтай маладой змены новыя Салеі, Грабоўскія і Касціцыны, хаця не варта казаць «гоп», пакуль не пераскочыш. У гісторыі было безліч прыкладаў, калі юныя зоркі, насамрэч таленавітыя спартсмены, згаралі на ўзлёце, і пра іх больш ніхто не ўспамінаў. Той жа Руслан Салей, перш чым заззяць у Нацыянальнай хакейнай лізе, прайшоў праз мноства выпрабаванняў, але штодзённая праца адшліфавала брыльянт. Адным словам, надзея ёсць. І хаця б гэта радуе.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Велікодныя пісанкі Галіны Дамашэвіч

Сонечным перадвелікодным днём па нейкай літаратурнай справе завітаў я на кватэру да пісьменніка Уладзіміра Дамашэвіча. Чалавека з моцнай беларускай сарцавінай, дужа мною паважанага – за смелыя выступленні ў абарону роднай мовы. За іх ён пры савецкай уладзе доўгі час хадзіў з біркай «нацыяналіста». І – не спяшаўся апраўдвацца. Мог нават паіранізаваць з гэтай нагоды дзе-небудзь у публічным месцы: «Калі я гавару дома, на рабоце, на вуліцы, у краме па-беларуску – мяне называюць нацыяналістам. Калі я хачу, каб на роднай мове гаварылі ўсе беларусы, якія жывуць у рэспубліцы, то я – нацыяналіст у квадраце. А калі, Божа беражы, я хачу, каб па-беларуску навучыліся гаварыць усе, хто прыехаў да нас і даўно жыве ў Беларусі, то я – нацыяналіст у кубе».

Дык вось, сядзім мы з «нацыяналістам у кубе» ў ягоным прасторным кабінеце, п'ём гарбату на зёлках, разглядаем бібліятэку, што займае дзве шырокія сцяны. Маю ўвагу прыцягваюць паліцы, шчыльна застаўленыя пульхнымі папкамі. Хвалю гаспадара за ўпарадкаваны архіў, але Уладзімір Максімавіч адмоўна хітае галавой і гукае ў глыбіню кватэры: «Галя, тут тваёй калекцыяй цікавяцца!»

З'яўляецца добразычлівая гаспадыня і кладзе перада мной на стол адну з папак. У ёй – альбом з узорамі велікодных пісанак. Іх шмат, у мяне аж вочы разбягаюцца. Пытаюся ў спадарыні Галіны: колькі пісанак у вашай калекцыі? Адказ мяне не тое што здзівіў – агаломшыў! «500 альбомаў па 500 узораў у кожным, усяго 250.000 пісанак». Дзвесце пяцьдзясят тысяч! І кожны ўзор трэба было прыдумаць (малюнкі не паўтараюцца), карпатліва вымаляваць рознакаляровымі фарбамі!

Разглядаў я тую ўнікальную калекцыю і дзіву даваўся. То хвалістыя пасачкі, то фігурныя палоскі, то крыжападобныя кветкі бэзу, то васількі, бо нездарма ж у народзе казалі: *няма цвяточка над васілёчка*. Трапілі на пісанкі і браты нашы меншыя – кураняты, галубкі, коцікі, зайчыкі, сабачкі (валачобныя яйкі аздабляліся такімі малюнкамі, каб пацешыць дзяцей).

На некаторых пісанках чытаю надпісы «Хрыстос уваскрос!», трапляюцца і незразумелыя літары *ВА*. «Гэта скарочана *Вясёлага Алілуя*, – тлумачыць майстрыца. – А галоўны колер на пісанках – чырвоны. Ён сімвалізуе жыццё, сімвалізуе з мёртвых паўстанне Ісуса Хрыста».

Як зачараваны, не заўважаючы часу, сядзеў я над тымі пісанкамі – падоўжанымі, папярэчнымі



і ўскоснымі. З надпісамі на розных мовах – каб віншаваць з Вялікаднем замежнікаў. Аказваецца, Галіна Дамашэвіч у свой час скончыла Інстытут замежных моў, таму беспамылкова надпісвае пісанкі па-нямецку і па-польску, муж дапамагае зрабіць надпісы па-французску, сын – па-чэшску, унучка – па-іспанску. Але пісанак у экспартным варыянце няшмат, пераважная большасць з іх створана ў адпаведнасці з беларускай народнай традыцыяй.

Майстрыца весела прыгадвае, як муж аднойчы пайшоў з яе пісанкамі да Уладзіміра Караткевіча. Ну, пахрыстосаваліся яны належным чынам, разгавеліся. Уладзімір Максімавіч вазьмі і прапануй Уладзіміру Сямёнавічу закусіць жончынымі пісанкамі. Той рашуча запярэчыў: гэта ж творы мастацтва! А назаўтра ў кватэры Дамашэвічаў прагучаў тэлефонны званок: «Гэта Караткевіч. Мілая кабетка, ты сама не ведаеш, што робіш! Ты ж працягваеш амаль страчаную традыцыю. Трэба неадкладна рыхтаваць выставу!»

Адзіная ў гісторыі Беларусі выстава пісанак адбылася, праўда, значна пазней. Дапамог яе зладзіць у Чырвоным касцёле ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. Захопленыя наведнікі запоўнілі сваімі водгукамі цэлы сшытак, майстрыца атрымала падзячныя лісты з іншых краін. І – зваблівыя прапановы. З Польшчы напісаў адзін мастацтвазнаўца: «У нас у Гайнаўцы ёсць Беларускі музей, там вашай калекцыі – самае месца». Падобная прапанова прыйшла і з Літвы: «Этнаграфічны музей гатовы набыць вашы пісанкі, назавіце цану». Але Галіна Дамашэвіч не захацела прадаць свае творы за мяжу.

Наведаў выставу і тагачасны міністр культуры Беларусі. Адразу прызнаўся, што міністэрства не мае грошай, каб выкупіць калекцыю. Майстрыца пагадзілася аддаць яе бясплатна, але з умовай – каб было знойдзена адпаведнае памяшканне. Памяшканне не знайшлося…

Амаль семдзесят гадоў з пэндзлікам у руцэ стварала сваю калекцыю Галіна Дамашэвіч. А пачалося яе захапленне пісанкамі ажно ў 1935 годзе, калі яна з бацькам трапіла на кухню Радзівілаў у нясвіжскім палацы і ўпершыню пабачыла расфарбаваныя рознымі ўзорамі яйкі. Дзяўчынка паспрабавала паўтарыць тыя ўзоры дома. А праз чатыры гады на іхняй Клеччыне (як і па ўсёй Беларусі) раскулачвалі хутары, многія сем'і былі вывезены ў Сібір. Бацька Галіны знайшоў на разбураным хутары сшытак з узорамі пісанак і перадаў яго дачцэ са словамі: «Там, у Сібіры, пагінуць нашы майстры, то трэба пераймаць іхняе мастацтва, трэба іх памінаць».

І дачка Галіна памінала тых загіблых на чужыне невядомых землякоў – 250.000 разоў. Ці не пра такую малітву кажуць, што яна нябёсы прабівае?

На развітанне Уладзімір і Галіна Дамашэвічы ўпіхнулі мне ў кішэню некалькі велікодных яек. Дзівосных пісанак і так проста – чырвоных крашанак. Сказалі: традыцыя, валачобнае, і адмаўляцца нельга.

Паехаўшы назаўтра на сваю родную Зэльвеншчыну, я тымі яйкамі-дарункамі на дзіва ўсім размалацціў біткі братоў, швагерак і пляменнікаў. Аказалася, Дамашэвічы ўзычылі мне сапраўдных мацакоў. Ажно шкада было іх на закусь пускаць – як і Караткевічу...

Пяць гадоў ужо няма на свеце маіх старэйшых сяброў Дамашэвічаў. Сышлі яны неяк ціхутка, адзін за адным. Што ж, квецень жыцця асыпаецца хутка, як яблыневыя пялёсткі ў маі.

Адна думка не дае мне спакою: дзе ж падзелася тая найвялікшая ў свеце калекцыя беларускіх пісанак? Пытаўся па музеях, распытваў агульных знаёмых – ніхто нічога не ведае. А нашчадкі нібыта жывуць недзе за мяжой.

Няўжо ў кагосьці паднялася рука выкінуць тую калекцыю на сметнік? 250.000 пісанак-памінанняў па загіблых у Сібіры суайчынніках…

Не верыцца, бо калекцыя Галіны Дамашэвіч – скарб. Духоўны і мастацкі. А скарбы позна ці рана знаходзяцца.

**Міхась СКОБЛА.**

